# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 12 (274) 29 сакавіка — 4 красавіка 1997 г. КОШТ 2000 РУБ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ





АДРАДЖАЕЦЦА ВЕРА, АДРАДЖАЕЦЦА СВЯТЫНЯ...



Віншуем чытачоў газеты "Культура" і ўсіх вернікаў-каталікоў са светлым Днём Уваскрэсення Хрыстова!

*На фота Генадзя Жынкова — Кафедральны касцёл у Мінску.*

ЭКСКЛЮЗІЎ

# ДЗЕЦЯМ МАЁЙ РАДЗІМЫ

**"ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ" ВЕНСКАЙ ОПЕРЫ Ў МІНСКУ**






**Ілмар Лапіньш:**
Я вельмі горды і задаволены, што гэтыя канцэрты здзейсніліся, што ёсць такія людзі, якія маюць вялікія сэрцы, бо вельмі няпроста для выканаўцы выкраіць са свайго творчага раскладу цэлы тыдзень. Дай Бог здароўя ўсім дзецям Беларусі!



**Паўлет Хербіх:**
Вашы людзі — цёплыя, дабразычлівыя, гасцінныя. Я ўдзячная, што запрошана: цікава сустрэцца з вашым народам, тым больш — чым-небудзь дапамагчы.



**Энрыке Медрана:**
Я ганаруся гэтым вопытам, магчымасцю спяваць для вашага народа, для вашых дзяцей.



**Алівера Мілякові́ч:**
Я шчаслівая спявачка для гэтай публікі, бо яна — фантастычная. На канцэрце я адчувала вялікую пазытыўную энергію залы. Мае ўражанні ад спеву на мінскай сцэне — быццам гэта было ў іншым свеце, недзе побач з Богам.

Два дабрачынныя канцэрты з удзелам салістаў Венскай оперы сталі цэнтральнай з'явай фестывалю "Майстры мастацтваў — дзецям і моладзі". У падрыхтоўцы канцэртаў, што прайшлі 26 і 27 сакавіка, разам з Белдзяржфілармоніяй і Міністэрствам культуры прыняло ўдзел Беларускае таварыства урачоў і ягоны віцэ-старшыня Аляксандр Цярэшчанка. Але канцэрты не змаглі б здзейсніцца без дырыжора з Аўстрыі Ілмара Лапіньша. Менавіта па яго запрашэнні ў Мінск прыехалі Алівера Міляковіч — сапрана, Паўлет Хербіх — меца-сапрана і Энрыке Медрана — тэнар. Алівера Міляковіч родам з Сербіі, працуе ў Венскай оперы з 1963 года. З 1980 года яна выкладае вакал, нядаўна адзначана ўрадам Аўстрыі Знакам пашаны за заслугі. У Белградскай акадэміі музыкі выхоўвалася на вялікай рускай класіцы. Вельмі любіць выконваць творы Мусаргскага, Глінкі, Рахманінава і асабліва Чайкоўскага. Але адзначыла, што любіць усё, што спявае. Энрыке Медрана — мексіканец, адзін з яе вучняў. Працуе ў еўрапейскіх тэатрах з 1990 года. Лаўрэат Міжнароднага музычнага конкурсу. Прызнаўся, што аддае перавагу музыцы Моцарта, Даніцэці, вельмі любіць стыль "бельканта". Паўлет Хербіх нарадзілася ў Злучаных Штатах Амерыкі, навучалася ў Вене, потым працавала ў тэатрах Аўстрыі, Швейцарыі, Германіі. Рэпертуар яе — ад Моцарта да Вердзі, любіць Бартака. Ілмар Лапіньш родам з Латвіі, з Рыгі. У 1990 годзе пачаў працаваць кіраўніком аркестра ў Югаславіі, але пачалася вайна, двое музыкантаў з ягонага аркестра загінулі. Сам ён вымушаны быў пераехаць у Аўстрыю, дзе і працуе і дзе штогод арганізуе дабрачынныя канцэрты на карысць сем'яў загінуўшых музыкантаў. У чэрвені бягучага году разам з тымі ж салістамі, з якімі прыехаў у Мінск, збіраецца правесці дабрачынныя акцыі ў Сербіі.

*(Заканчэнне на стар. 4)*

НЕ З ГАЛОЎНАГА ФАСАДА

# "ГАРЫШЧЫ" І "СУТАРЭННІ" ЗАСТЫЛАЙ МУЗЫКІ...

*Як высветлілася, прафесійны рэйтынг беларускіх архітэктараў у свеце даволі высокі. І гэта робіць гонар нашай дзяржаве. Але чаму праблемы менавіта творчыя не становяцца ў творцаў галоўнымі? Сёння наш суразмоўца — старшыня Саюза архітэктараў Беларусі Яўген КАВАЛЕЎСКІ.*



**— Яўген Міхайлавіч, дык што ж сёння турбуе Саюз архітэктараў? Разумею, што праблем шмат, у тым ліку і агульных для ўсіх творчых саюзаў. Аднак спецыфіка ў кожнага свая...**

— Ведаеш, гэтыя праблемы мы асабліва востра і рэальна прадбачылі тады, калі аб'ядналіся ўсе разам у Канфедэрацыю творчых саюзаў і культурных фондаў. Мы і тады разумелі, што нацыянальная культура ў краіне знаходзілася не ў лепшым стане. І сёння гэта бачна па многіх фактарах, не кажучы ўжо пра такую празаічную рэч, як да смешнага нізкія заробкі работнікаў культуры. Але самае крыўднае ў гэтай тэндэнцыі тое, што называюць стаўленнем да культуры...

**— У сэнсе маральнага стаўлення?**

— Менавіта. Як бы мы ні праклінаді ўсе папярэднія савецкія, камуністычныя ўлады, але дзяржаўнае стаўленне да культуры было дакладна вызначаным. Хай нават і ў скажоным выглядзе. Няхай нават без узаемнай шчырасці. Хай быў тады і ідэалагічны прэсінг. Але нашу творчую інтэлігенцыю ўсё ж паважалі, нават садзілі ў другі рад якога-небудзь важнага прэзідыума ззаду партыйных чыноўнікаў... Я не думаю, што ў той сістэме ўлады былі найгоршыя людзі, прынамсі, яны падсвядома адчувалі, што дзяржава і культура — гэта дзве неад'емныя часткі: няма дзяржавы, няма і культуры. Гэта як дрэва — калі ягоная сярэдзіна згніе, дык загіне і ўсё дрэва.



**— Саюз архітэктараў, — ці не адзін са старэйшых творчых саюзаў у краіне...**

— Так, яму ўжо 62 гады. Сёння ў нас 1100 сяброў. І працяглы час мы жылі, скажу табе, прыстойна. Ніколі не плацілі падаткаў, нават падчас вайны. Я, безумоўна,"спяваю" песню, усім даўно вядомую, але не паўтарыць яе нельга, хаця яна ўжо ўсім надакучыла. Бо праз гэтую сентэнцыю, нібыта праз прызму, асабліва востра факусіруюцца цяжкасці і складанасці, што выпалі на нашую долю сёння. Аднак "цяжкасці" — слабенькае слоўца для сапраўднага становішча рэчаў.

**— Што ты маеш на ўвазе?**

— Размова ідзе не пра асобна ўзятага мастака, не пра асобна ўзяты творчы саюз альбо ягонага кіраўніка. Размова ідзе пра тую духоўную тканіну, якая плялася стагоддзямі, ткалася нашымі продкамі. А мы — толькі звяно ў гэтым ланцугу. І таму мы проста абавязаныя перадаць несапсаванай і захаванай нашым нашчадкам тую культурную прастору, якая дасталася нам ад папярэднікаў.

**— Але мы, творчыя дзеячы, для таго і існуем, каб гэта рабіць...**

— Гэта так. Але калі грымнулі перабудовачныя грамы, гэтую, так бы мовіць, шалёную волю ў нас ніхто па-сапраўднаму і не адчуў. Уяві сабе, як мы жылі раней: дзіцячы садок, школа, вучоба ў ВНУ, праца, пенсія, гэта значыць, усё было запраграмавана на 150 — 200 рублёў заробку.

**— Так, усе тады жылі прыблізна аднолькава, за невялікім выключэннем...**

— А тут раптам поўная воля! З аднаго боку, гэта нібыта і добра, а з другога — мы страцілі разуменне ролі культуры ў дзяржаўнай канструкцыі, калі казаць архітэктурнымі тэрмінамі. Бо я цвёрда перакананы, што спачатку — культура, а ўжо потым эканоміка, з'яўляецца падмуркам кожнай дзяржаўнай сістэмы, кожнай дзяржаўнай канструкцыі...

**— Разумею. Як можна ствараць будынак без гэтага падмурка?**

— Альбо, больш дакладна, на вельмі нетрывалым, слабым падмурку.

**— І ўсё ж, як новы час адбіўся на жыцці твайго саюза?**

— Кардынальна. Раней усё было ў нас неяк урэгулявана паводле прынцыпаў, так бы мовіць, партыйнай арганізацыі: існаваў генеральны сакратар — у дадзеным выпадку я, сваё палітбюро — наш прэзідыум, збіраліся пленумы паводле методыкі ЦК і г.д. Зараз жа, калі мы сталі вольнымі ад апекавання дзяржавы і апынуліся на ўзбочыне жыцця, паўстала пытанне...




Фота Генадзя ЖЫНКОВА

**— Ці патрэбны сёння творчы саюз наогул?**

— Мы зразумелі, што сёння саюз нам патрэбны, мабыць, як ніколі раней. Магчыма, ён стане іншым творчым утварэннем — шлях да яго нам яшчэ трэба прайсці...

**— У сусветнай практыцы ў розных краінах уся творчая інтэлігенцыя заўсёды аб'ядноўвалася ў нейкія суполкі, як, да прыкладу, імпрэсіяністы або перасоўнікі, той жа віцебскі УНОВИС...**

— І гэта абумоўлівалася не толькі імкненнем да ўнутраных узаемакантактаў, але і жаданнем мець творчыя сувязі з іншымі дзяржавамі, іншымі культурамі і мастацтвамі. Гэта было фізіялагічнай патрэбай кожнага мастака-творцы. А без такіх стасункаў, без узаемапранікнення розных культур знікае духоўная інфармацыя, слабее інтэлект нацыі, ператвараючыся ў местачковы...

**— І вось надышоў новы час...**

— І ўяві сабе, гэты цяжкі час даў магчымасць нам, архітэктарам, працаваць самастойна! Так, мы — суполка спецыфічная. Раней мы працавалі толькі ў дзяржаўных арганізацыях. Іншай формы працы, у адрозненне, скажам, ад мастакоў-жывапісцаў, у нас не было. Прычым, архітэктура, у дадзеным выпадку гэтае слова можна было б узяць у двукоссі, якую мы стваралі, цалкам рэгулявалася дзяржавай.

**— Ты маеш на ўвазе тую панельна-блочную архітэктуру, якая так ніведіравала людзей?**

— Так, менавіта яе я называю "пакункам для чалавека" альбо "машынай для жылля". Усё рэгулявалася: ад кошту квадратнага метра да колькасці метраў "на душу насельніцтва", да колькасці школ, дзіцячых садкоў, крамаў, — усё было распісана "па нотах". А ў выніку мы атрымалі эстэтычна-непатрабавальнае грамадства, у якім сёння жывём. Таму і гарады нашы, спрошчаныя да мінімуму, больш нагадваюць вулей для пчол... І заўваж, архітэктурнае асяроддзе вельмі моцна ўплывае на душэўны стан грамадства...

**— Бо архітэктура заўсёды з'яўлялася люстраным адбіткам эканамічнай заможнасці дзяржавы або яе неста-**



*Афіцыйна...*

# ГАРАЧЫ ПЛЕНЭР МІНІСТЭРСТВА

***Учора ў Лепелі завяршылася выязное пасяджэнне калегіі Міністэрства культуры па праблемах захавання і падтрымкі традыцыйнай культуры Беларусі. Напярэдадні гэтай падзеі наш карэспандэнт Серж МІНСКЕВІЧ сустрэўся з начальнікам упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Тадэвушам СТРУЖЭЦКІМ, які паведаміў пра пытанні і прапановы, якія меркавалася вынесці на разгляд калегіі.***

— Такое пасяджэнне праводзіцца ўпершыню за апошнія гады, таму мы надаем вялікую ўвагу ягонаму правядзенню. І тым больш, праблема падтрымкі традыцыйнай культуры досыць актуальная і патрабуе абмеркавання на розных узроўнях, у тым ліку і з боку нашага міністэрства.

Чаму Лепельскі раён? Таму што там ёсць першыя пэўныя напрацоўкі ў дадзеным напрамку створана нядрэнная матэрыяльная база, там ёсць дасведчаны, зацікаўлены падыход з боку мясцовых органаў улады, аддзела культуры, работнікаў культуры. Таму мы вырашылі сабраць на пашыранае пасяджэнне калегіі з удзелам кіраўнікоў упраўлення культуры аблвыканкамаў, дырэктараў метадычных цэнтраў, групы загадчыкаў раённых аддзелаў культуры, дырэктараў дамоў рамёстваў, прадстаўнікоў творчых саюзаў. Праблема падтрымкі і развіцця традыцыйнай культуры з'яўляецца адным з прыярытэтных кірункаў дзейнасці міністэрства, што вызначана планам і асноўнымі задачамі на наступны год. Нам хацелася больш дакладна зарыентаваць работу ўсёй сістэмы культуры, а таксама выйсці з прапановамі і рэкамендацыямі на іншыя міністэрствы і ведамствы. Хацелася б таксама больш актыўна прыцягнуць да сумеснай дзейнасці Міністэрства адукацыі, паколькі яно па сваіх функцыянальных абавязках павінна гэтым займацца.

Што тычыцца самой праграмы правядзення пасяджэння калегіі, то мы плануем паказаць яе ўдзельнікам шэраг аб'ектаў, якія працуюць з традыцыйнай культурай — перш за ўсё гэта Бярэзінскі запаведнік. Там у вёсцы Добжырыцы створаны цэнтр ткацтва, дзе сабралі мясцовых ткачых, узнаўляюць даўнія гістарычныя традыцыі ткацтва. Пазнаёмім удзельнікаў калегіі і з унікальнай Бярэзінскай воднай сістэмай, якая мела культурна-гістарычнае значэнне для гэтага рэгіёна. Вакол яе фарміраваліся і развіваліся розныя традыцыйныя віды народных рамёстваў, захоўвался аўтэнтычны фальклор. У самім Лепелі ўдзельнікі пашыранай калегіі пазнаёмяцца з работай раённага Дома рамёстваў, дзе маецца ўжо значны вопыт арганізацыі гэткай дзейнасці. На базе Лепельскай школы мастацтваў адкрыецца абласная выстава народнага мастацтва. Мы прымеркавалі яе да калегіі, але яна будзе працаваць некаторы час і пасля, каб жыхары горада і раёна маглі азнаёміцца з прадстаўленымі народнымі вырабамі, таму што на выставу будуць сабраны творы найбольш адметных майстраў Віцебскай вобласці. Для ўдзельнікаў калегіі будзе паказана тэматычная праграма па абрадавых матывах Лепельшчыны "Каса — дзявочая краса". Уся праграма зарыентавана на тое, каб кожны крок, кожны паказ быў звязаны з традыцыйнай культурай. Так, напрыклад, калі гэта будзе вячэра, то гэта будзе вячэра з традыцыйных страў Лепельшчыны. А кожнаму ўдзельніку падрыхтаваны пералік-брашурка "Лепельскія прысмакі", дзе будуць указаны рэцэпты і ад каго гэтыя рэцэпты запісаны. Дарэчы, работа па зборы матэрыялу праведзена работнікамі культуры раёна. Гэта таксама можа быць цікавым накірункам дзейнасці ўстаноў куль-



*У чаканні канцэрта... Фестываль "Беларуская полька" у Чачэрску.*

Фота Андрэя ВАШКЕВІЧА

**більнасці. А як справы з рынкам для архітэктуры?**

— Пра цывілізаваны рынак пакуль што казаць не даводзіцца... Хіба што ў заможных людзей з'явілася магчымасць будаваць за горадам безгустоўныя індывідуальныя жылыя дамы ў выглядзе сярэдневечных замкаў, церамаў і мінарэтаў. Зразумела, ні прафесійныя архітэктары, ні мастакі-інтэр'ершчыкі ў распрацоўцы падобных праектаў не ўдзельнічаюць...

**— Распавядзі пра структуру персанальных творчых майстэрняў Саюза архітэктараў. Я ведаю, што вы адны з першых у былым СССР пачалі ствараць такія майстэрні.**

— Зараз іх — каля ста васьмідзесяці. Гэта пачыналася гадоў сем таму, калі яшчэ слова "рынак" і "канкурэнцыя" мы вымаўлялі шэптам. Пачыналася ўсё з нуля, з рэканструкцыі падвалаў і гарышчаў жылых дамоў і ўстаноў, якія ператвараліся ў цудоўныя творчыя офісы і майстэрні. І ўсё гэта — сваімі ўласнымі рукамі, сваёй працай. Уяўляеш, што значыць рэалізаваць сябе ў свабоднай творчасці?

**— Уяўляю. Калі архітэктар цалкам адказвае перад заказчыкам, тады ён, мабыць, з'яўляецца не толькі праекціроўшчыкам, але і эканамістам, і юрыстам...**

— І цесляром, калі хочаш, і прыбіральшчыкам, і кім заўгодна... Дазвол на індывідуальныя творчыя майстэрні мы даем найбольш актыўным архітэктарам, якія, дарэчы, пакуль сваіх замоўцаў не падводзілі...

**— Што новага ў творчым жыцці Саюза?**

— Штогод мы наладжвалі два агляды творчасці нашых дойлідаў, на якіх адзначалі лепшыя праекты. Аўтары іх потым удзельнічаюць у міжнародных аглядах-конкурсах...

**— У рамках СНД?**

— Так. Бо з былымі творчымі саюзамі СССР мы сувязь падтрымліваем як сябры Міжнароднай асацыяцыі архітэктараў...

**— І які рэйтынг нашых архітэктараў там, цяпер ужо за мяжой?**

— Высокі. Калі раней прыбалтыйская архітэктурная школа традыцыйна лічылася адной з лепшых, дык зараз, калі Прыбалтыка, вобразна кажучы, "выпала" з нашага творчага постсавецкага кола, Беларусь нібыта заняла яе нішу і нават, паводле ацэнак спецыялістаў, выйшла наперад. Пра гэта сведчаць тыя міжнародныя прызы, якія мы атрымліваем за свае праекты. І гэта радуе. Хаця замоваў у сваёй уласнай краіне па-ранейшаму нестае...

**— І што вы робіце?**

— Шукаем іх у Расіі, і ў далёкім замежжы, пачынаючы ад Германіі і заканчваючы Японіяй. Ва ўмовах нармальнай, здаровай канкурэнцыі.

**— Гэта значыць, калі ты зробіш кепскі праект, дык заўтра замоўца да цябе ўжо не прыйдзе. І ты...**

— І ты застанешся без працы. Такім чынам, канкурэнцыя прывяла да таго, што наш агульны архітэктурны ўзровень значна падвысіўся...

**— Не хацелася б у цябе пытацца пра вечны, нязгасны боль усіх творчых саюзаў — пра падаткі, пра неапраўдана высокую арэндную плату за карыстанне вытворчымі памяшканнямі, пра пагрозу развалу некаторых творчых саюзаў, у тым ліку , Саюзаў фотажурналістаў і дызайнераў, пра...**

— Я цябе проста перапыню. Мне здаецца, што ўладныя структуры пакуль не разумеюць самага галоўнага, з чаго трэба пачынаць, калі гаворка ідзе пра перспектывы развіцця краіны. А пачынаць трэба з таго, пра што сказаў нядаўна Аляксандр Салжаніцын: не пакрыўдзіць чалавека! Ці падумаў хто пра гэта? Я ўжо не кажу пра прыгажосць, якая выратуе свет, альбо пра тую самую слязінку дзіцяці...

**— Якія буйныя архітэктурныя аб'екты знаходзяцца сёння ў сферы дойлідства?**

— У цэлым, праца дробязная. Праўда, дабудоўваем два доўгатэрміновыя аб'екты, якія пачыналіся яшчэ пры савецкай уладзе — Палац рэспублікі і чыгуначны вакзал у Мінску. Па-ранейшаму ўдзельнічаем у праектаванні і будаўніцтве станцый метрапалітэна. Будуем новае, чыстае жыллё ў Чарнобыльскай зоне. Перспектывы, урэшце, будуць залежаць ад дзяржаўнага фінансавання...

**— Чуў, што праз тры месяцы ў Мінску адбудзецца вялікі міжнародны агляд-конкурс на лепшы архітэктурны праект года?**

— Так, ён будзе праведзены 1 ліпеня ў Міжнародны дзень архітэктара па ініцыятыве Міжнароднага Саюза архітэктараў, членамі якога мы з'яўляемся. Гэтае мерапрыемства мы хацелі б спалучыць са святам 930-годдзя Мінска. Наладжваем і выставу, прысвечаную адраджэнню нашага горада. Словам, запрашаем.

**— І апошняе. Над чым ты зараз працуеш непасрэдна як архітэктар?**

— Па замове Міністэрства культуры разам з Генадзем Буралкіным буду праектаваць мемарыяльную дошку Івану Чыгрынаву на доме, дзе ён жыў...

**— Што ж, поспехаў стваральнікам "застылай музыкі", толькі няхай яна не застыгне.**

**Гутарыў Барыс КРЭПАК**


... Германіі... Фота ... ЖЫНКОВА

туры. Удзельнікі калегіі могуць пачаставацца гэтымі стравамі, а некаторыя, дзякуючы таму, што атрымаўся гэткі прыгожы буклет, могуць выкарыстоўваць рэцэпты ў сябе дома, прапагандаваць беларускую кухню.

Да выступлення на калегіі мы запрасілі практыкаў, навукоўцаў, спецыялістаў, прадстаўнікоў навучальных устаноў, кіраўнікоў мастацкіх калектываў. Фактычна будуць прадстаўлены ўсе тыпы ўстаноў культуры, усе ўзроўні органаў кіравання, якія маюць самае непасрэднае дачыненне да традыцыйнай культуры.

Падтрымка і развіццё традыцыйнай культуры мае для нашага міністэрства прыярытэтнае значэнне. Зразумела, што гэты прыярытэт будзе рэалізоўвацца ў самых розных формах і накірунках. Гэтак, пачынаючы з 1997 года, Міністэрства культуры ўводзіць дзесяць спецыяльных прэмій за асабісты ўклад у развіццё народных традыцый. Гэтымі прэміямі будуць узнагароджвацца і носьбіты аўтэнтычнага фальклору, і майстры дэкаратыўнапрыкладнога мастацтва, і ўсе тыя, хто тым альбо іншым чынам робіць уклад у развіццё традыцыйнага мастацтва. Будуць узнагароды за лепшую навуковую працу, за лепшую прапаганду традыцыйнай культуры, таксама мы адзначым лепшых кіраўнікоў мастацкіх калектываў. Вось гэта тыя канкрэтныя крокі, якія будуць спрыяць маральнаму і матэрыяльнаму заахвочванню арганізатараў.

Акрамя гэтага плануецца распрацоўка цэлага шэрагу заканадаўчых нарматыўных дакументаў. Яны распрацаваныя, але іх пакуль што нам не ўдаецца на ўсіх узроўнях узгадніць. Напрыклад, праект закону аб народных мастацкіх промыслах і рамёствах: ён распрацаваны, і ўжо другі год мы яго дапрацоўваем і ўзгадняем, асабліва цяжка ідзе ўзгадненне з Міністэрствам фінансаў, Міністэрствамі працы і юстыцыі, якія маюць свае пазіцыі па гэтым законапраекце. Распрацаваны праект закону па ахове фальклору, праекты палажэнняў аб народным майстры, аб аўтэнтычных фальклорных калектывах.

Мяркуецца правядзенне цэлага шэрагу навуковых даследаванняў рэспубліканскіх мерапрыемстваў, фестываляў, выстаў, звязаных з традыцыйнай культурай. Можна не перабольшваючы сказаць, што зараз у краіне накоплены пэўны вопыт, але гэты вопыт патрабуе свайго абагульнення, удакладнення, нават распрацоўкі нейкіх новых канцэптуальных накірункаў. Актывізацыі гэтай работы і павінна спрыяць пасяджэнне калегіі. Мы спецыяльна зрабілі яе выязной, каб і члены калегіі, і арганізатары, і практыкі маглі непасрэдна пазнаёміцца з досведам канкрэтнага рэгіёна: штосьці для сябе ўзяць, штосьці зрабіць лепш, таму што стандартных падыходаў быць не павінна. Наша задача даць максімум інфармацыі, як гэта робіцца, як гэта можа рабіцца. Але ж у кожнай канкрэтнай вобласці ці раёне гэтая праца будзе і павінна весціся па сваіх накірунках, бо там ёсць свае асаблівасці, свае традыцыі, якія трэба ашчаджаць.

# ОПЕРНЫ ХОР НА СЦЭНЕ І ЗА КУЛІСАМІ



***Не сакрэт, што пры велізарных нагрузках артысты хору маюць вядомыя ўсім нам матэрыяльныя праблемы: заробак мізэрны, часу для падпрацоўкі не застаецца...***

***Так, у нашым друку рэгулярна з'яўляюцца артыкулы пра прэм'еры, радзей — пра салістаў, але, на жаль, журналісты і музыказнаўцы зазвычай абыходзяць увагай харавы калектыў оперы. Калі ж і сустракаюцца рэдкія ацэнкі, дык павярхоўныя альбо нядобразычлівыя — нібыта выйшлі з-пад пяра прыдзірлівага рэвізора, які ўзнагароджвае артыстаў толькі "двойкамі" ці "тройкамі". Ці такія ўжо сумныя справы нашага опернага хору, які мае за плячыма шасцідзесяцігадовую гісторыю?***

***Я папрасіла падзяліцца думкамі пра калектыў хору вядомага опернага рэжысёра з Санкт-Пецярбурга Юрыя АЛЯКСАНДРАВА, які паставіў на беларускай сцэне оперы "Дон Паскуале" і "Казкі Гофмана", "Рыгалета" і "Князь Ігар". І вось што ён сказаў:***

— У нас даўняя ўзаемная сімпатыя — шмат гадоў таму менавіта ў вашым тэатры я атрымаў першы зарад любові да харавых спеваў. І сёння лічу гэты калектыў адным з лепшых на абшарах былога Саюза. Зараз хор у выдатным стане — і гэта ў многім заслуга галоўнага хормайстра тэатра спадарыні Ніны Ламановіч. Для мяне асноўнае патрабаванне да хору ў спектаклі — стварэнне гукавога вобраза, і радуе тое, што калектыў заўсёды выдатна выконвае гэтую задачу. Артысты разумеюць рэжысёра з паўслова, працуюць натхнёна і захоплена. Хор беларускай оперы невялікі — усяго 60 чалавек, а павінна быць не менш за 90. І тое, што ён захоўвае якасць гучання ў найсур'ёзным рэпертуары, калі адчуваецца адсутнасць нават двух-трох спевакоў, сведчыць пра вялікае майстэрства і высокі прафесіяналізм артыстаў... Я маю вопыт стасункаў з калектывам не толькі тут, на Беларусі, але і за мяжой. І ведаю, што ваш хор можа зрабіць тое, што не кожнаму пад сілу. Напрыклад, падчас гастроляў у Іспаніі, у горадзе Кардова, проста "з колаў", без адпачынку і рэпетыцый яны праспявалі "Рэквіем" Вердзі так, што прыдзірлівая іспанская публіка была ў невымоўным захапленні. Плошча перад саборам была запоўнена людзьмі. На вачах у слухачоў я бачыў слёзы, а адзін амерыканскі меламан нават усклікнуў: "Цяпер я ведаю, для каго Вердзі стварыў гэтую музыку..."

Дык што ж гэта за прафесія — артыст хору, як працуюць і жывуць спевакі?

Працоўны дзень пачынаецца раніцай: заняткі ў класе, вывучэнне новых партый, паўтарэнне старых, сцэнічныя рэпетыцыі перад прэм'ерай з рэжысёрам і аркестрам, грым, касцюмы... Дзённы перапынак працягваецца 3 — 4 гадзіны. Амаль кожны вечар — спектакль, што заканчваецца ў 22 — 23 гадзіны. Усе партыі трэба ведаць напамяць, а многія оперы да таго ж гучаць на мове арыгінала — італьянскай альбо французскай. Колькі ж музыкі і тэксту павінен ведаць і трымаць у памяці кожны артыст — у рэпертуары ж больш за дваццаць опер, пяць балетаў, у якіх заняты хор!

Апошнія чатыры гады оперным хорам кіруе Ніна Ламановіч — чалавек надзвычай энергічны і творчы, бязмежна адданы тэатру. Адпрацаваўшы ў тэатры больш за 20 гадоў, яна да дробязяў ведае "закулісную кухню". Гэта і прывяло мяне да яе:

**— У апошнія гады хор заўважна падвысіў свой прафесійны ўзровень. Ваш калектыў актыўна ўдзельнічае ў оперных пастаноўках і мае ў рэпертуары некалькі найскладанейшых канцэртных твораў — "Рэквіем" Вердзі, "Карміну Бурану" Карла Орфа. На Ваш погляд, ці кожны вакаліст можа стаць артыстам опернага хору?**

— Не, не кожны. Нашы артысты маюць непараўнальна большую нагрузку на голас, чым, да прыкладу, у акадэмічным хоры. Таму вакаліст павінен мець моцны голас шырокага дыяпазону, інакш кажучы — оперны голас. Апрача неабходных прафесійных дадзеных спевака, трэба добра рухацца, умець танчыць, быць камунікабельным і сцэнічным. Істотная якасць — фізічная цягавітасць, бо даводзіцца працаваць два разы на дзень — раніцай і ўвечары. Калі салісты оперы заняты ў чатырох-пяці спектаклях на месяц, дык хор выходзіць на сцэну да шаснаццаці разоў. А праца ў касцюмах і парыках, што бываюць вельмі цяжкімі! А асвятленне падчас спектакля — іншы раз поўная цемра, а іншы раз — яркае святло, што сляпіць вочы! Ну і, безумоўна, трэба мець добрую памяць, каб кожны вечар спяваць на сцэне розныя оперныя партыі.

Аднак малады спявак нават пры наяўнасці ўсіх неабходных якасцей не адразу становіцца артыстам хору. На вывучэнне партый патрабуецца не адзін сезон. А паўнавартасным артыстам, які ведае рэпертуар і ўпэўнена працуе на сцэне, можна зрабіцца толькі праз 4 — 5 гадоў.

**— Глядач з залы бачыць толькі тое, што адбываецца на сцэне, і не заўсёды ўяўляе, якія цяжкасці артысты пераадольваюць падчас спектакля. Напрыклад, сцэна нашага тэатра ледзь не самая вялікая ў Еўропе, артысты раскіданыя на яе прасторы, таму часта не чуюць адзін аднаго і нават не бачаць дырыжора. У такіх умовах цяжка захаваць ансамбль. Якія яшчэ сітуацыі Вы маглі б прыгадаць?**

— Хору даводзіцца спяваць на рухомай платформе, на вялікай вышыні, пад падлогай сцэны, у ложах глядзельнай залы... А нярэдка трэба паспець памяняць касцюмы для наступнай сцэны за лічаныя хвіліны і пры гэтым не збіць дыханне. Такіх сітуацый — мноства ў кожным спектаклі.

**— Хто ж яны, вашы артысты, як складваецца іхні творчы лёс?**

— Сярэдні ўзрост спевакоў 30 — 35 гадоў. Гэта сталыя галасы, вопытныя артысты. Ёсць і група моладзі, якім троху больш за дваццаць, і яны толькі пачынаюць свой шлях. У асноўным — гэта студэнты кансерваторыі, якія паступілі туды, калі пачалі працу ў тэатры. Кіраўніцтва тэатра не перашкаджае ім атрымоўваць вышэйшую адукацыю, але ў сувязі з гэтым узнікаюць і пэўныя цяжкасці — перагрузкі голасу, частая адсутнасць на рэпетыцыях з прычыны вучэбных заняткаў. Мы разумеем — гэта часовыя праблемы, бо такія вядомыя сёння салісты, як Дэдзік, Руднева, Варапай, Гардынец пачыналі сваю творчую дзейнасць менавіта ў оперным хоры.

**— Оперны спектакль — "жывое мастацтва", што ствараецца на сцэне на нашых вачах. І бываюць спектаклі больш альбо менш удалыя. Артысты ж — таксама людзі, і на якасці выканання адбіваюцца і фізічны стан, і жыццёвыя цяжкасці, і стомленасць напрыканцы сезона. А калектыў невялікі, кожны голас "на ўліку", і замяніць артыста часам проста няма кім. Іншы раз хору фізічна не хапае "аб'ёму" гучання, як, напрыклад, у пралогу да "Князя Ігара".**

**Не сакрэт, што пры велізарных нагрузках артысты хору маюць вядомыя ўсім нам матэрыяльныя праблемы: заробак мізэрны, часу для падпрацоўкі не застаецца. А вакаліст — гэта і выканаўца і інструмент адначасова. Каб утрымліваць галасавы апарат у "працоўным стане", трэба добра харчавацца, ды яшчэ і карміць сям'ю...**

— Што тут скажаш? Паводле штатнага раскладу ў хоры 69 штатных адзінак, але ў нас вялікі недахоп спевакоў. Незразумелае, непрадуманае рашэнне прыраўняць у аплаце працы харавыя калектывы — радыё, акадэмічную капэлу, народны і оперны хары прывяло да таго, што многія артысты пайшлі з тэатра. Іх можна зразумець — у іншых месцах пры тым жа заробку часу для сям'і і адпачынку ў некалькі разоў больш. Але затое ў нас засталіся людзі, якія любяць тэатр, не палохаюцца цяжкасцей — працы ў святочныя дні і ўвечары, немагчымасці праводзіць шмат часу з дзецьмі, якія часта ўжо спяць, калі бацькі вяртаюцца дадому... І яны не памыліліся! Оперны хор выжыў, умацаваўся і выдатна развіваецца прафесійна. Гэта зараз моцны творчы калектыў, які здольны выканаць любую оперную музыку розных эпох і стыляў...

***А калі б хор складаўся з 100 — 120 галасоў, як у іншых оперных тэатрах, і меў бы два саставы... Тады можна было б і разгрузіць артыстаў, даць магчымасць здзейсніць мноства ідэй і творчых планаў на карысць нашага беларускага мастацтва. Бо энтузіязму і працалюбства музыкантам не бракуе! Ну, а пакуль... Наш Оперны тэатр горача прымалі ў Іспаніі і Тайландзе, Нямеччыне і Ізраілі, выступленні хору атрымліваюць высокую ацэнку ў замежным друку...***

**З хормайстрам гутарыла Людміла ІЗМАІЛАВА**

*На здымку: сцэна з оперы "Кармэн".*

**Фота Васіля МАЙСЯЁНКА**

НЕ З ГАЛОЎНАГА ФАСАДА

# ВІНШУЕМ! З ЛЮБОЎЮ І НАДЗЕЯЙ

***27 сакавіка ў Міжнародны Дзень тэатра адбылася ўрачыстая вечарына, прысвечаная 50-годдзю Беларускага саюза тэатральных дзеячаў. Паводле традыцыі гэтае свята прайшло ў памяшканні Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, дзе выбраных дзеячаў тэатральнага мастацтва краіны чакалі ўзнагароды. Безумоўна, што Гран-пры ў Міжнародны Дзень тэатра застаецца самым прэстыжным у дзяржаве, нягледзячы на прызы шматлікіх фестываляў, якія ладзяць служыцелі Мельпамены на Беларусі.***

***Карацей, віншуем уладальнікаў крыштальных прызоў і жадаем не спыняцца на дасягнутым!***

***Каманда "К" заўсёды з вамі і для вас падрыхтавала гэты газетны "капуснік", які пацвярджае гэтай і былымі публікацыямі нашую Любоў і Павагу да Мастацтва, якому служым і ў якое верым...***

**Каманда "К"**



Гран-пры "Крыштальную Паўлінку" — ***Барыс Герлаван***, галоўны мастак Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

**Прыз "Міжнародная зорка"** — ***тэатр-лабараторыя драматургіі "Вольная сцэна"*** за развіццё інтэрнацыянальных сувязей і ўдзел у Эдынбургскім фестывалі.

**Прэмію імя Ігната Буйніцкага** — ***Тадэвуш Кокштыс***, акцёр Беларускага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа.






**Прэмію імя Еўсцігнея Міровіча** — ***Барыс Луцэнка***, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага драматычнага рускага тэатра імя М.Горкага.



**Прэмію імя Ларысы Александроўскай** — ***Наталля Руднева***, салістка Вялікага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі.

**Прэмію імя Любові Мазалеўскай** — ***Уладзімір Караткевіч***, мастацкі кіраўнік Гомельскага драматычнага тэатра.

**Прэмію імя Кандрата Крапівы** — ***Мікалай Арахоўскі***, драматург.



**Прыз "Крыштальная кветка"** — ***Аляксандр Гарцуеў***, акцёр Купалаўскага тэатра ў намінацыі "Дэбют" за рэжысёрскую працу над спектаклем "Крывавая Мэры".

# МАНАЛОГ АЛЯКСАНДРА ГАРЦУЕВА

"Толькі не думай, калі ласка, што складанасці мужчынскага жыцця лягчэй перанесці. Асабістыя, я маю на ўвазе... Быў перыяд, калі ўсё складалася так цяжка, што выйсця, як мне здавалася, не было. Я, жанаты чалавек, закахаўся ў каляжанку... Адным словам — "даспяваліся", як цяпер жартоўюць у тэатры. Спачатку было вельмі прыстойна: разам спявалі, канцэрты, рэпетыцыі... Зоя пісала вершы, я — музыку. Дарэчы, зараз прачытаю табе некалькі радкоў, якія трапна адлюстроўваюць стан маёй душы таго часу.

*Можа, мы і не дзве палавінкі,*
*Што сустрэліся выпадкова?*
*Можа, мы проста часцінкі*
*Тых, хто не адбыўся?*
*І наканавана нам*
*Самота?"*

***("Культура", № 12, 1993 г.)***

# ПРАЦЭС ПАЙШОЎ... І Ў КІНАРЫНАК

***З 23 па 26 красавіка ў памяшканні кінатэатра "Масква" будзе працаваць І Мінскі міжнародны кінарынак дакументальных, навукова-папулярных і дзіцячых кінавідэафільмаў і тэлепраграм.***

Праграма І ММК мяркуе правесці і канферэнцыі па праблемах існавання і карыстання відэа-аўдыётэхнікі ў арганізацыі вучэбнага працэсу ў сярэдніх, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах.

Зразумела, што кінарынак дапускае ўдзел не толькі прадаўцоў, але і пакупнікоў. Дарэчы, фірмы "МТ", "Новое тысячелетие" (Масква) набываюць правы і ліцэнзіі на пракат і тыражыраванне стужак — удзельнікі мінскага кінафэсту. Актыўна працуюць арганізатары з партнёрамі з Польшчы, Балгарыі, Чэхіі, Ізраіля.

Хаця да пачатку працы І ММК застаецца амаль месяц, але ж пытанняў да яго арганізатараў шмат. У бліжэйшых нумарах "К" прапануе чытачам больш падрабязныя матэрыялы аб І Мінскім міжнародным кінарынку.

**Уласная інфармацыя**

# ПАСАЖЫ БЛІСКУЧАГА ПЯТРОВА

Днямі ў Вялікай зале Дзяржаўнай філармоніі адбыўся канцэрт вядомага піяніста з Масквы Мікалая Пятрова. Надзвычай кароткі творчы візіт — усяго адзін дзень у Мінску — быў таксама і надзвычай плённы. Вечарам 24 сакавіка ў філармоніі гучалі творы Моцарта: санаты, фантазія, сімфонія До-мажор "Юпітэр". Дзякуючы віртуознай ігры Пятрова прысутныя пераканаліся ў гэты вечар, што "лепш за Моцарта можа быць толькі Моцарт". Пасля канцэрта адбылася прэс-канферэнцыя, падчас якой піяніст адказаў на шматлікія пытанні прысутных.

**А.Р.**

*Калектыву народнага ансамбля песні і танца "Ніва" Верцялішкаўскага Дома культуры Гродзенскай вобласці*

***Паважаныя сябры!***

Прыміце шчырыя і сардэчныя віншаванні з нагоды 25-годдзя творчай дзейнасці. За гэтыя гады ваш ансамбль стаў адным з лепшых у Гродзенскай вобласці. Яго ведаюць у краіне і за яе межамі. Сведчанне таму — дыпломы фестываляў розных узроўняў, цёплыя апладысменты гледачоў Аўстрыі, Бельгіі, Германіі, Літвы, Малдовы, Расіі, Украіны, Югаславіі. Зачараванасць народнай песняй і танцам, любоў да роднага краю, выканальніцкае майстэрства робяць ваш калектыў яркім і запамінальным. Разам з удзячнасцю тысяч гледачоў, якія пабывалі на вашых канцэртах, прыміце і нашыя словы падзякі за ўклад у развіццё нацыянальнай культуры, далучэнне насельніцтва да свету мастацтва. Жадаем, каб яшчэ многія гады ваша дзейнасць заставалася плённай, каб натхненне, асалода ад новых выступленняў не пакідалі вас і надалей.

Поспехаў і перамог вам у мастацтве і асабістым жыцці, шчасця і дабрабыту, новых юбілеяў!

**Міністр культуры Рэспублікі Беларусь**
**А.У.САСНОЎСКІ**

# СПАСЦІГАЕМ СЛАВАКІЮ

Днямі ў Таварыстве дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі адбылося справаздачна-выбарчае пасяджэнне сябрыны "Беларусь — Славакія". Яе старшынёй ізноў абраны начальнік Упраўлення сацыяльна-культурнай палітыкі Савета Міністраў Беларусі Леанід Гуляка. На пасяджэнні ішла гаворка аб новых формах беларуска-славацкіх сувязей. У прыватнасці, свой новы праект аб правядзенні Міжнароднага дабрачыннага пленэру па скульптуры ў гарадскім пасёлку Фаніпаль прадставіў мастак-педагог Віталь Чарнабрысаў (творчае аб'яднанне "Арцель"). Варта нагадаць, што сябры гэтага аб'яднання летась правялі выставу, якой зацікавілася прадстаўніцтва ААН у Беларусі, што дало магчымасць беларускім мастакам удзельнічаць у 2-й міжнароднай канферэнцыі ААН па паляпшэнні навакольнага асяроддзя "Хабітат-2", праведзенай летась у Стамбуле.

Намеснікамі старшыні сябрыны сталі Ганна Запартыка (Дзяржаўны архіў), Анатоль Стаскевіч (мастак, чыя выстава нядаўна дэманстравалася ў бібліятэцыФ А.С.Пушкіна) і Станіслаў Кавалёў, старшы выкладчык кафедры псіхалогіі Інстытута ўдасканалення кваліфікацыі, чые пераклады кніг Багуслава Ковача, вядомага філосафа Славаччыны, высока ацэненыя спецыялістамі.

**Ягор ФЯДЗЮШЫН**

# ДЗЕЦЯМ МАЁЙ РАДЗІМЫ

## "ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ" ВЕНСКАЙ ОПЕРЫ Ў МІНСКУ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

У першым з канцэртаў, на якім выконвалася жалобная масонская музыка і "Рэквіем" Моцарта, прымалі ўдзел таксама Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Рыгора Шырмы і Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі. Да салістаў жа далучыўся наш бас Алег Мельнікаў з Нацыянальнага опернага тэатра Беларусі. Такім чынам, канцэрт атрымаўся "інтэрнацыянальным". Сярод слухачоў у зале прысутнічаў прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг. У рамках дабрачыннасці, бясплатна, атрымалі магчымасць паслухаць замежных спевакоў дзеці з музычных школ і студый Гомельшчыны і Магілёўшчыны. Відавочна, сустрэча з выканаўцамі надоўга застанецца ў памяці юных слухачоў. Тым больш, што па заканчэнні яны мелі магчымасць сфатаграфавацца са спевакамі на памяць і атрымалі аўтографы з сардэчнымі пажаданнямі на беларускай, рускай, ангельскай, іспанскай і сербахарвацкай мовах.

27 сакавіка, там жа, у Вялікай зале філармоніі, адбыўся сольны канцэрт спевакоў з Вены, на якім яны выканалі пад фартэпіяна любімыя арыі з опер Моцарта, Бізэ, Пучыні, а таксама песні і рамансы Чайкоўскага і Рахманінава.

У рамках фестывалю, які прымеркаваны да вясновых школьных канікулаў, прайшлі дзіцячыя спектаклі амаль ва ўсіх тэатрах Мінска, адбыліся сустрэчы з дзеячамі мастацтва. Цікавы па задумцы ("Дзеці — дзецям") атрымаўся канцэрт малодых выканаўцаў 28 сакавіка ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі. Міністэрства культуры і сталічная філармонія маюць намер праводзіць фестываль "Майстры мастацтваў — дзецям і моладзі" штогод.

**Ігар КЛОКАЎ**

# ФЛЕЙТА, ГАБОЙ, ЛІТАЎРЫ...

23 сакавіка ў Баранавічах пачаўся рэспубліканскі конкурс выканаўцаў на духавых і ўдарных інструментах. Усяго 89 удзельнікаў з усіх куткоў нашай краіны сабраліся сюды прадэманстраваць сваё высокае майстэрства. Знамянальна тое, што бяруць у ім удзел не толькі прадстаўнікі нашай Беларусі з усіх яе абласцей, але і канкурсанты, запрошаныя з суседняй Малдовы: Іон Ногурэ, Сцяпан Рэдван, Сяргей Мушат. З суседняй Украіны з горада Львова на конкурс прыехалі Максім Каляда, Раман Салянік. 29 сакавіка адбудзецца заключны, святочны канцэрт, будуць падведзены вынікі конкурсу, названы імёны яго лаўрэатаў, пра што мы паведамім дадаткова.

**А.Р.**

# АДАМ, БАЦЬКА МАКСІМА

Калі мы чуем прозвішча Багдановіч, у нашай памяці ўсплываюць чароўныя радкі Максіма:

*"Нашто ж на зямлі*
*сваркі і звадкі, боль і горыч,*
*Калі ўсе мы разам ляжым*
*Да зор?"*

Ці нейкія іншыя радкі. Не адразу мы ўспамінаем, што быў і другі (дакладней — першы) Багдановіч — Адам, бацька Максіма. Менавіта ён узрасціў і выхаваў таленавітага паэта. А што мы ведаем пра самога Адама Ягоравіча? Ці можна абмяжоўвацца толькі веданнем яго навуковых прац?


А.Я.Багдановіч

Не — лічаць у Бібліятэцы Акадэміі навук РБ. Чалавека можна лепш зразумець і адчуць, калі ведаць, па якіх кнігах ён вучыўся, што чытаў. Атрымоўваецца — скажы мне, якія кнігі ты чытаеш, і я скажу, хто ты. Таму 25 сакавіка ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў адкрыта выстава "З асабістага кнігазбору Адама Ягоравіча Багдановіча (Да 135-годдзя з дня нараджэння)".

Выстава прадстаўляе каля 100 выданняў з уласнай бібліятэкі Адама Ягоравіча. Усяго ж бібліятэка старэйшага Багдановіча налічвае 2153 выданні. Усе яны сабраныя пасля 1918 года — гэта другая калекцыя кніг Адама Багдановіча, бо першая згарэла падчас грамадзянскай вайны пры пажары ў Яраслаўлі, яна была значна багацейшая і большая за другую. Адам Ягоравіч вельмі ганарыўся ёю і асабліва старадрукамі, якіх у другой бібліятэцы толькі два, — яны і пачынаюць выставу.

Выстава падзелена на раздзелы, просты пералік якіх гаворыць аб шырыні інтарэсаў Адама Ягоравіча: гісторыя, археалогія, антрапалогія, геаграфія, філасофія, літаратуразнаўства, мастацкая літаратура, этнаграфія, фальклор, беларусазнаўства. І закрываюць выставу кнігі з даравальнымі надпісамі Максіма Горкага, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі і іншых знакамітых людзей.

Але ў адрозненне ад іншых выстаў, гэтую вызначае адна вельмі істотная дэталь — на кнігі Адама Багдановіча можна не толькі глядзець, але і карыстацца імі.

**Міхась БАШУРА**

# "СТАІМ МЫ ПЕРАД БУДУЧЫНЯЙ НАШАЙ..."




Так называлася вечарына, якая прайшла ў Доме літаратара 24 сакавіка і была прысвечаная 75-годдзю напісання Янкам Купалам верша "Перад будучыняй".

Перад моладдзю, якая ў гэты вечар сабралася ў зале, выступіла пісьменніца Вольга Іпатава. Артысты мінскіх тэатраў, а таксама вядучая Антаніна Хатэнка прачыталі і іншыя вершы вялікага паэта, чыё выказванне "...Што ні тварылася б на свеце, беларуская думка аб нацыянальнай і сацыяльнай волі як жыла, жыве, так і жыць будзе" нездарма стаіць як эпіграф у запрашальным білеце.

Гучала музыка, і перад партрэтам Купалы гарэлі свечкі. Музей Янкі Купалы, які праводзіў гэтую вечарыну, яшчэ раз засведчыў сваё ўменне надаць музейнай справе жывую абаяльнасць Генія і данесці яе да сённяшніх нашчадкаў Купалы.

**Наш кар.**

# КАШТОЎНЫЯ ДАКУМЕНТЫ НА... ДЗЯЖУРНЫМ СТАЛЕ

У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча адкрылася выстава, прысвечаная вядомаму этнографу, фалькларысту, мовазнаўцу Адаму Багдановічу (1862-1940). Фотаздымкі, кнігі, лісты да вучонага, чарнавікі і іншыя дакументы даюць нам магчымасць дакрануцца да мінулай эпохі. Даюць зразумець, у якой атмасферы адбывалася станаўленне сына вучонага — Максіма Багдановіча. Безумоўна, матэрыялы, прадстаўленыя на агляд грамадскасці, нясуць добрую энергетыку. Як напісаў Адам Багдановіч: "Зразумець чалавека немагчыма без разумення яго асяроддзя і мінулага".

Аднак невялікая экспазіцыя, якая змясцілася ў адной зале, візуальна не ўражвае, бо існуюць моманты недапрацаванасці. Так, стол, што дэманструецца тут, зусім непатрэбны. Мне падаецца, што сёння падобны штучны інтэр'ер набіў у наведнікаў аскоміну. Калі афармляецца выстава, прысвечаная навукоўцу ці літаратару, дык абавязковы атрыбут яе — стол. Напрыклад, экспазіцыі, прысвечаныя Нілу Гілевічу і Кандрату Крапіве, якія наладжаны ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, таксама маюць у сваім інтэр'еры сталы... На мой погляд, было б цікавей размясціць на новай выставе — канапу. Наколькі я ведаю, многія літаратары, навукоўцы пішуць свае тэксты на канапах, ложках. Некаторыя выкарыстоўваюць падваконні. Канечне, добра, што ў падрыхтоўцы дадзенай экспазіцыі скарыстана музейная традыцыя афармлення, але... Ці не занадта шмат паўтораў у адносінах да творчых людзей?

**Зміцер ВОЛКАЎ**

# ШТО ВЯШЧУЕ ЗЯЗЮЛЯ?

Творчасць лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Сяргея Законнікава знаходзіць усё новых і новых прыхільнікаў. 25 сакавіка ў гарадскім Доме культуры Магілёва адбылася прэм'ера монаспектакля "Зязюля" паводле паэмы Сяргея Законнікава. Ажыццявілі пастаноўку рэжысёр Валянцін Ермаловіч і артыстка гарадскога тэатра "Машэка" Лілія Кузьменка. На прэм'еры прысутнічалі аўтар паэмы — Сяргей Законнікаў і паэт Алесь Пісьмянкоў. Адразу пасля спектакля адбылося яго абмеркаванне, якое перарасло ва ўзрушаны дыялог пра літаратуру.

**Наш кар.**

*Ліст у рэдакцыю*

# ХТО ВЫШЭЙ?..

Калі ў Рагачове з'явілася афіша, якая паведаміла пра прыезд "зорак" беларускай эстрады Я.Паплаўскай і А.Ціхановіча, здавалася, што на іх канцэрце ў гарадскім Доме культуры не будзе, дзе яблыку ўпасці. У той жа час павесілі другую афішу, але крыху вышэй, з паведамленнем аб выступленні са сваімі вершамі мясцовага паэта Юрыя Арэстава. Крыху аб паэце. Яму 35 гадоў. Нядаўна ў маскоўскім выдавецтве "Икар" выйшла кніжка яговых вершаў "Прикосновение", там жа пабачыў свет калектыўны зборнік "Вдохновение", адным з аўтараў якога з'яўляецца Юрый. Ю.Арэстаў таксама адзін з аўтараў і стваральнікаў літаратурнамастацкага альманаха "Рагачоўскі розгалас".

Тое, што афішу Ю.Арэстава вывесілі вышэй за афішу "зорак", кагось балюча закранула, і нарэшце гэтага ў раёнцы з'явілася нешта падобнае на рэкламны матэрыял з назвай "Хто вышэй?".

Творчая вечарына Юрыя адбылася паспяхова, выдатна. Госці казалі ў адрас паэта багата добрых слоў, бо яго паэзія — гэта нешта новае, адметнае... Сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Беларускага саюза пісьменнікаў Васіль Ткачоў пра творы нашага земляка казаў так: "На Рагачоўшчыне з'явіўся сапраўдны паэт..." Няблага аб яго творах адазваліся і ў Маскве, напрыклад, Б.Акуджава, іншыя вядомыя паэты Расіі...

А вось канцэрт "зорак" так і не адбыўся...

**Е.НАВУМЕНКА,**
**бібліятэкар Рагачоўскай ЦБС,**
**Е.ЯРМОЛІНА,**
**навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага музея народнай славы.**



Калядныя і велікодныя кампазіцыі, букеты, калажныя творы, вяночкі, пано з сухіх кветак, траў, саломкі — усё гэта вырабляюць сваімі рукамі хлопчыкі і дзяўчынкі са студыі фітадызайну Нацыянальнага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі. Больш за 50 найцікавейшых твораў падрыхтавалі юныя фларысты да выставы, прысвечанай 50-годдзю любімай студыі.

*На здымку: твор юных фларыстаў.*

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**

*Помнім...*

# СЛЕД ЗНІЧКІ

Кожны чалавек час ад часу думае аб смерці і не можа ўявіць, як гэта яго не будзе? Але не менш цяжка ўявіць сабе, як гэта цябе не было? Амаль ніхто не задумваецца над тым, што ён мог і не нарадзіцца, мала хто задаецца пытаннем: "Якім быў бы свет, калі б у ім не было мяне?" Здавалася б, такім самым, жыццё ішло б гэтак жа, як ішло, і без цябе, як яно ішло пры табе, як будзе ісці і тады, калі цябе не стане. Але гэта не так. Без любога з нас свет быў бы ў чымсьці іншым, хай сабе ў нейкім абмежаваным асяродку, аднак іншым, а калі гаварыць пра адметную, неардынарную асобу, то зусім іншым, — нікому няма на гэтай зямлі замены!



Думаю аб гэтым, успамінаючы Уладзіміра Андрэевіча Бойку, Валодзю Бойку, Боечку, як называлі яго блізкія і сябры, —яскравую зорку-іскарку, што яшчэ зусім нядаўна свяцілася на арбіце Жыцця, планету, знікненне якой гэтак балюча адчуваюць яе асірацелыя спадарожнікі. Што з таго, што зорачка гэтая не залічана ў афіцыйны "зорны рэестр", бо не было ў Валодзі аніякіх ганаровых званняў і дзяржаўных прэмій, ніякіх бліскучых узнагарод, акрамя сціплага медаля "Ветэран працы", — талент, усё ж такі, вымяраецца не афіцыйным прызнаннем нейкіх высокіх інстанцый, а сваёй сапраўднасцю, незалежна ад таго, вялікі ён ці проста талент. У Валодзі ён быў сапраўдны, ад Бога. Ён свеціцца і ў яго мастацтвазнаўчых работах, і ў вершах, якія, на жаль, амаль не друкаваліся, таму што Валодзя пісаў іх "для сябе", для самых блізкіх сяброў, не прэтэндуючы на званне паэта, і ў яго ных своеасаблівых акварэлях, выстава якіх яшчэ наперадзе. А яшчэ ён быў дзіваком, ідэалістам у самым высокім сэнсе гэтага слова, чалавекам той дзіўнай пароды, якая сёння знікае, амаль знікла, — пароды бясср ebраніканых людзей, якім не трэба іншай раскошы, акрамя "роскоши человеческого общения", акрамя любімых кніжак, "старамодных" людзей, высакароднасць сціпласць якіх, рыцарскае стаўленне да жанчыны, мудрая талерантнасць у дачыненні да чужой думкі — арганічная ўласцівасць натуры. І таму яго не хапае не толькі блізкім, не толькі сябрам, але і ўсім, хто яго ведаў.

Прайшоў роўна год, як яго не стала. І як горка, што шэсцьдзесят пятую гадавіну з дня яго нараджэння даводзіцца адзначаць памінальнай свечкай, памінальнай чаркай. Амаль адначасова з гадавінай смерці — мастацтвазнаўца, літаратар, паэт, мастак Уладзімір Бойка памёр 1 красавіка, а нарадзіўся 7-га... Трыста шэсцьдзесят пяць дзён, што прайшлі без яго, не прыглушылі боль страты. Ён усё яшчэ перад вачыма, яскравая зорачка на арбіце Жыцця, знічка, след якой застаецца ў душы назаўсёды. Бо гэта след сапраўднага агню, прырода якога і ў вялікага полымя, і ў маленькай іскры — адна і тая ж!..

**Валянцін ТАРАС**

# "ПЕРСПЕКТЫЎ ПАКУЛЬ НЕ БАЧУ..."

***Толькі што закрылася персанальная выстава плаката беларускага мастака Уладзіміра Крукоўскага, прысвечаная яго 60-годдзю.***

**— Валодзя, цэлых чвэрць стагоддзя ты працуеш у плакаце...**

— Так, для мяне плакат — гэта маё творчае жыццё. Чым ён мяне прываблівае? Гэта мастацтва вуліц і плошчаў, грамадскіх інтэр'ераў і рознага кшталту выстаў. Паводле сваёй камунікабельнасці, агульнадаступнасці і пранікнення ў масы плакат можна параўнаць, бадай, толькі з кніжнай ілюстрацыяй...

**— Ты працаваў ва ўсіх відах і жанрах плаката — у сатырычным і агітацыйным, тэатральна-відовішчным і рэкламным, інфармацыйным, вучэбным, карацей, пачынаючы ад плакатаў па тэхніцы бяспекі і заканчваючы палітычнымі...**

— Палітычны плакат для мяне, мабыць, бліжэй за ўсё. Гэта мой, так бы мовіць, улюбёны жанр...

**— У лепшых сваіх творах ты, на мой погляд, дасканала валодаеш і нечаканай метафарай, і свежай сімволікай, і мастацтвам абагульнення форм, не кажучы ўжо пра тое, якое вялікае значэнне ты надаеш характару шрыфта і размяшчэнню тэкстаў, дэкаратыўнаму і колераваму вырашэнню. Мне блізкія твае плакаты, прысвечаныя ахове помнікаў беларускага дойлідства і навакольнага асяроддзя, плакаты, звязаныя з вобразамі выдатных сыноў Беларусі — Кастуся Каліноўскага, Язэпа Драздовіча, Міхася Севрука, Янкі Купалы... Асабліва я б выдзеліў на выставе твой плакатны трыпціх "Дзень Х". На маю думку, цудоўны твор...**



— Я зрабіў гэты трыпціх летась, спецыяльна да рэспубліканскай выставы, прысвечанай 10-годдзю Чарнобыльскай трагедыі. Мяркую, праца, сапраўды, атрымалася ўдалай, хаця і аказалася нікім не запатрабаванай.

**— Трыпціх не набылі?**

— Не. У дужках заўважу, што сёння плакат як від мастацтва дзяржаве не патрэбны. У якасці галоўнага замоўцы яна вычарпала свае магчымасці. А новы айчынны, рыначны замоўца, да прыкладу, гандлёвы, тавар якога трэба рэкламаваць і рэалізоўваць, яшчэ не нарадзіўся.

**— А тэатры, напрыклад? Ім жа плакат вельмі неабходны...**

— Тэатры — жабракі, замовіць нават добрую мастацкую афішу не ў стане. Як і іншыя аналагічныя дзяржаўныя і грамадскія структуры, у тым ліку і наш Беларускі Саюз мастакоў...

**— І ўсё ж, ці ёсць светлая будучыня ў айчыннага плаката?**

— Перспектыў пакуль не бачу...

*На здымках:*
*Уладзімір Крукоўскі.*
*Трыпціх "Дзень Х".*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**










# ЧЫСТЫЯ РЫСЫ ЧЫСТАГА



**5** красавіка спаўняецца 50 гадоў мастаку-афарміцелю Генадзю Чыстаму — чалавеку, які аддае свой талент музейнай справе. Ягонае мастацтва — гэта перайманне класічных традыцый, але... у гэтых нібыта замкнёных колах ён шукае сваё і знаходзіць. Напрыклад, на выставе творчасці Ніла Гілевіча, якая дэманструецца ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, сярод шматлікіх дакументаў, кніг, фотаздымкаў, аўтарскіх чарнавікоў мы бачым драўляныя лаўкі і сеткі, на якіх паказаны розныя перыяды літаратурнага жыцця паэта. Гэта невялікая знаходка Чыстага робіць экспазіцыю цэласнай, жывой. Незвычайныя ўпрыгожанні ствараюць у наведнікаў фенаменальныя ўражанні, ад чаго нават простае шкло, за якім знаходзяцца матэрыялы, успрымаецца наноў. Быццам бы гэта ўжо і не шкло, а касмічны каўпак, пад якім хаваюцца культурныя скарбы. А чаго вартая экспазіцыя, якая размяшчаецца ў тым жа музеі, прысвечаная Кандрату Крапіве! Генадзь аздабляе памяшканні выставы муляжом крапівы. Пякучая трава ператварае архіўнае ў жывую істоту. Так! Цяпер мы не проста наведваем экспазіцыю, прысвечаную выбітнаму беларускаму творцы, а трапляем у творчую прастору, дзе жыве дух Крапівы.

Вядомасць прыйшла да Генадзя Чыстага ў 1986 годзе, калі ён афарміў краязнаўчы музей у Ашмянах. Вось тады і пасыпаліся да мастака шматлікія прапановы наконт супрацоўніцтва, ад якіх і зараз няма адбою. Афармляць офісы фірм Генадзь адмаўляецца — не хоча разменьвацца на несур'ёзнае. Яго больш цікавіць культурная спадчына. Тое, што нясе да нас праз стагоддзі светлае і яскравае. Таму сёння ён можа ганарыцца сваімі творчымі заваёвамі — афармленнем 9 выстаў і 6 музеяў. Музей у Кушлянах Францішка Багушэвіча, у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі — "Побыт гараджан". Некалькі экспазіцый у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры: першая прысвечана Нілу Гілевічу "І ўсё ж такі я веру", другая — "Кандрат Крапіва — вядомы і невядомы", трэцяя прысвечана беларускім жанчынам-асветніцам "Любоў мая... Мая Беларусь", чацвёртая — да 70-годдзя Васіля Быкава "Асоба і час". Выдатная экспазіцыя ў краязнаўчым музеі Заслаўя "Мара аб Заслаўі". А для Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі ён сваімі рукамі зрабіў некалькі гістарычных гербаў. І шмат-шмат іншага закладзена афарміцелем у скарбніцу нашай краіны.



**Зміцер ВОЛКАЎ**

*На здымках:*
*Генадзь Чысты.*
*Фрагмент экспазіцыі выставы "Мара аб Заслаўі".*

# "СКУЛЬПТУРА ДЛЯ МЯНЕ ЁСЦЬ ПАЧУЦЦЁ ЖЫЦЦЯ..."

***У гасцях у нашай рэдакцыі вядомы скульптар Генадзь МУРАМЦАЎ.***



**— Генадзь Ільіч, як ты стаў мастаком?**

— Дзякуючы Сяргею Пятровічу Каткову, у якога я пачынаў займацца ў сямігадовым узросце ў Доме піянераў. Гэта было ў 1939 годзе.

**— А пасля вайны?**

— Наведваў студыі выяўленчага мастацтва ў Доме афіцэраў і Доме народнай творчасці ў цудоўнага каларыста Мікалая Лукіча Тарасікава. Затым вучыўся ў Мінскай мастацкай вучэльні ў Андрэя Ануфрыевіча Бембеля. Лічу, што бембелеўскае яснае і дакладнае выкладанне педагагічнага метаду, разуменне ім сутнасці скульптурнай пластыкі застаюцца і сёння неперавзыдзенымі ў беларускай прафесійнай педагогіцы.

**— У каго ты займаўся ў Ленінградскім інстытуце жывапісу, скульптуры і дойлідства імя Рэпіна?**

— У Керзіна. Міхаілу Аркадзевічу я абавязаны многім: не толькі прафесіяналізмам, але і чалавечай прыстойнасцю і сумленнасцю.

**— Ты лічыш сябе больш скульптарам-манументалістам альбо камерным станкавістам?**

— Я не магу падзяляць сябе на часткі. Я — проста скульптар. У мяне ёсць шмат твораў і манументальнага характару, у тым ліку буйныя помнікі, мемарыялы, памятныя дошкі, і сотні твораў у станковай пластыцы: партрэты, жанравыя кампазіцыі, эцюды-імпрэсіі і г.д.

**— Колькі ў цябе было персанальных выстаў?**

— Сённяшняя ўжо трэцяя. І першая — з ілюстраваным каталогам. Павінен заўважыць, што гэтая выстава складзена толькі з тых твораў, што знаходзяцца ў фондах Нацыянальнага мастацкага музея. Такім чынам, калі хочаш паглядзець на мае новыя творы — прыходзь у майстэрню.

**— Ты выкладаеш ужо амаль 40 гадоў. Педагагічная дзейнасць — гэта тваё другое прызванне?**

— Праца гэтая вельмі адказная і, дадам, не вельмі ўдзячная. Але я ёю жыву. Гэта значыць, я пастаянна знаходжуся ў руху. Гэта істотна. Калі скульптар зачыніцца ў сваёй майстэрні, у сваім "скіту", ён можа спыніцца ў развіцці. А педагагічная дзейнасць, калі яна не перашкаджае творчасці, спрые таму, каб не застацца на адным і тым жа ўзроўні... І яшчэ. Я займаюся гэтай справай, спадзеючыся на памяць маіх вучняў.

**— Чым для цябе з'яўляецца скульптура?**

— Скульптура для мяне ёсць пачуццё жыцця і пачуццё духоўнага пачатку ў ім.

*На здымках:*
*Генадзь Мурамцаў.*
*"Вясна". Мармур.*
*"Рамонак". Гіпс.*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**





# СЦЭНОГРАФЫ ПРАДСТАЎЛЯЮЦЬ



21 сакавіка ў памяшканні Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы адбылася значная падзея ў культурным жыцці краіны — адкрылася рэспубліканская выстава беларускай сцэнаграфіі, прысвечаная 50-годдзю СТД. Эскізы дэкарацый, макеты і касцюмы прадставілі мастакі самых розных тэатраў Мінска і Віцебска, Гомеля і Гродна, Магілёва



*На вернісажы — музыка.*





і Брэста. І хаця, як адзначыў старшыня секцыі сцэнографаў Саюза Дзмітрый Мохаў, мастакі-мінчане маглі б паказаць значна больш твораў, тым не меней, выстава дае шырокае ўяўленне пра тое, як і чым жыве сёння нацыянальная сцэнаграфія.

*На здымках: свае творы прадставілі вядомыя мастакі тэатра А.Фаміна, Д.Мохаў, Л.Сідельнікава.*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# "ЗБІРАЮСЯ ЖЫЦЬ ДОЎГА..."



**М**ікола Ісаёнак: "Мая персанальная выстава — гэта своеасаблівы прыцэл у будучыню, так бы мовіць, новы пункт адліку. Працяглы час у сваім "падполлі" я пісаў вялікія палотны. Але цяпер пішу толькі маленькія, камерныя, у асноўным, пейзажы. Для мяне пейзаж — гэта музыка, настрой, стан, паэзія. Адзін і той самы матыў, які, звычайна, заўсёды канкрэтны, я магу пісаць шмат разоў, у любы час, у любое надвор'е. Мне прыемна жыць у свеце, што знаходзіцца ў мяне ў сярэдзіне, і тым, які мяне атачае. А свет гэты — "мой сад", "мая яблыня", "мае бярозкі", "мой дворык", "маё возера", "мой зімовы сон"... Планую неўзабаве падрыхтаваць яшчэ адну выставу, магчыма, у Нацыянальным мастацкім музеі, бо тут, у Палацы, я паказаў толькі невялікую частку створанага. Ці знайшоў я сябе? Не ведаю. Але, мяркуючы па ўдзячнай рэакцыі гледачоў, я іду па правільным шляху. Для мяне прынцыпова неістотна, што адлюстроўваць, галоўнае — як. Да гэтага і імкнуся. Безумоўна, пражыць 50 гадоў — гэта не так ужо і шмат. Але некаторыя з маіх калег і таварышаў, на жаль, не дасягнулі і гэтай мяжы, хаця кожны з іх, як мог, рабіў сваю справу. Я ж збіраюся жыць і працаваць доўга..."

**З кнігі водгукаў:** "Палотны гэтага мастака — сапраўдная музыка нашага жыцця, што дае адчуванне гармоніі душы, падараванай нам Богам. Здаецца, я магла б бясконца разглядаць гэтыя светлыя пейзажы, напоўненыя настроем і паэзіяй. Марыя Жалудок".

*На здымках: Мікола Ісаёнак. "Водар мёду". Палатно, алей.*

**Фота Яўгена КОКТЫША і Генадзя ЖЫНКОВА**



# У МАЙСТЭРНІ АМАЛЬ ШТОДНЯ...



**У**ладзімір Пасюкевіч — мастак на Беларусі вядомы. Вось ужо амаль 40 гадоў ён жыве ў творчасці. Ягоныя лепшыя карціны, партрэты, пейзажы, нацюрморты знайшлі сваё адметнае месца ў нацыянальным жывапісе.

Уладзімір Маркавіч увайшоў у вялікае мастацтва хутка і нястрымна: ужо першы ягоны сур'ёзны твор "Хакеісты" стаў заўважнай з'явай у жывапісе пачатку 60-х.

Гэта было роўна 35 гадоў таму, адразу ж пасля заканчэння Маскоўскага мастацкага інстытута імя В.Сурыкава, дзе мастак шмат гадоў вучыўся ў Дзмітрыя Мачальскага, вучнем якога, дарэчы, быў і Міхаіл Савіцкі. А потым пачалося тое, што прынята называць "жыццём у мастацтве". Было ўсё: шумныя поспехі, горкія няўдачы, бліскучыя ўзлёты, расчараванні. Як і ў кожнага творцы, які шукае свой шлях у мастацтве...

А Уладзімір Пасюкевіч — жывапісец, які сапраўды шукае. Ва ўсім, што адбываецца ў грамадстве, у прыродзе, у вялікіх і малых падзеях чалавечага жыцця, ён бачыць адзінае, усеагульнае дзеянне вялікіх творчых сіл. Менавіта гэтым адчуваннем напоўнены, значнасці быцця і радавала нас выстава, што працавала нядаўна ў Рэспубліканскім Палацы мастацтва.

А вось і сам мастак у карціне "Успаміны": стаіць задуменны, засяроджаны, з палітрай у руцэ, ззаду — эцюднік "на пленэры"...

Мяне ўразілі два пейзажы. На першы погляд, у іх няма нічога звышасаблівага: проста таленавітыя творы, зробленыя таленавітай рукою. Адзін напісаны ў 1969 годзе — пад назвай "На Прыпяці цішыня" — спакойная, мудрая рака з лодачкамі ля ўтульнага берага. Спакой. Свежасць. Нібыта нягучная, празрыстая музыка чуецца ў храстве прыроды, навяваючы залатыя сны. І другі — "Кінутая вёска" — створаны ў 1996 годзе, калі ў гэтых дзівосных мясцінах панавала чарнобыльская навала. Кінутая — гэта пра вёсачку, што назаўсёды засталася без жыхароў. А калісьці яна была казачна прыгожая, жывая, вясёлая... Такая вось сумная сувязь часоў... Як яе, гэтую сувязь, асэнсаваць?

... Уладзімір Маркавіч працуе ў майстэрні амаль штодня. Планаў і задум — безліч. Дай Бог, каб мастаку ўдалося ўвасобіць іх у палотнах. І мы шчыра ўдзячныя Майстру за вялікую любоў да жыцця. За сумныя і вясёлыя жывапісныя песні пра родную зямлю, пра яе добрых і працалюбівых людзей, пра тое, што было з намі калісьці, і пра нас, сённяшніх...

*На здымках: "На прасторах Капыльшчыны". Палатно, алей. "Дзяды". Палатно, алей.*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



**У** 1917 годзе, калі ішла першая сусветная вайна, рускі кампазітар Ігар Стравінскі наведаў Рым і Неапаль. Паездка была цікавая яшчэ і тым, што ён пазнаёміўся з Пабла Пікаса. Яны пасябравалі, і мастак падарыў Стравінскаму некалькі сваіх малюнкаў. Калі ж кампазітар вяртаўся ў Швейцарыю, на мытні звярнулі ўвагу на дзіўны дакумент.

— Што гэта такое? Гэта план? — спыталіся ў Стравінскага, уважліва аглядаючы вуглы і квадраты на аркушы.

— Не, гэта мой партрэт, які намаляваў Пабла Пікаса.

— Які ж гэта партрэт, вы жартуеце!

— Гэта малюнак знакамітага Пікаса, калі хочаце — план майго твару, і нічога больш!

Тым не менш мытнікі канфіскавалі малюнак, вырашыўшы, што гэта план нейкага стратэгічнага аб'екта.

***З надыходзячым 1 красавіка!***

**Падрыхтавала Алена РЫГОРАВА**

**Аўтар матэрыялаў разгорткі Барыс КРЭПАК**

# ГАБРЭЙСКІЯ ЖАРТЫ — НЕ ГОРШЫЯ ЗА ГАБРАЎСКІЯ



* * *

— Хто такія "патомныя габрэі"?

— Гэта габрэі, якія паедуць потым. А зараз яны разважаюць, што лепей — памерці на гістарычнай радзіме ці памерці сваёй смерцю?

* * *

На свята габрэі жадаюць адзін аднаму "габрэйскага шчасця". Што такое "габрэйскае шчасце"? Гэта час паміж двумя няшчасцямі.

* * *

Габрэй пытаецца ў равіна:

— Рэбэ, што такое шлюбнае жыццё?

— Гэта вялікая бочка дзёгцю, а зверху намазана танютка мёдам — так, для мядовага месяца.

— То напэўна я гэтую бочку адкрыў з супрацьлеглага боку!

* * *

Адзін бедны габрэй вельмі хацеў выйграць у латарэю. Прыйшоў да равіна і кажа:

— Рэбэ, папрасіце, калі ласка, у Бога, каб ён мне дапамог выйграць!

Равін згадзіўся і дзень і ноч маліў аб гэтым Бога. Але габрэй так нічога і не выйграў. У адчаі равін нейкім чынам прабраўся да Бога на асабісты прыём і запытаўся:

— Госпадзі! Я ведаю, што гэты габрэй сапраўды бедны, яму вельмі патрэбны грошы, дапамажы яму выйграць у гэтую латарэю, будзь ласкавы!

— Ды я згодны дапамагчы яму выйграць. Але хай ён хоць бы купіць білет!

* * *

З Нью-Ёрку прыходзіць ліст, у ім такія словы: "Сёма, я хацеў табе выслаць у гэтым лісце сто даляраў, але, прабач, ужо заклеіў канверт..."

* * *

Адзін габрэй адкрыў у Амерыцы прыгожы рэстаран, запрасіў сяброў — лішне казаць, габрэяў. Тыя прыйшлі і былі вельмі ўражаныя: у рэстаране працавалі тры кітайцы, якія шпарка размаўлялі на добрым ідыш. Пытаюцца:

— Зяма, як табе ўдалося навучыць іх габрэйскай мове?

— Ш-ш-ш, яны ўпэўненыя, што гэта англійская мова!

* * *

Памірае габрэйка і просіць свайго мужа:

— Мойша, мая да цябе апошняя просьба: калі мяне будуць хаваць, вазьмі маю матку пад руку і ідзі ўвесь час пад руку з мамай за труной.

— Сара, вядома, калі ты пра гэта просіш, я так і зраблю. Але я хачу адразу сказаць, што ніякага задавальнення ад пахавання я ўжо мець не буду!

* * *

Кажуць, старажылы — гэта тыя, асабістыя справы каторых Бог згубіў. Дык вось, аднойчы стары-стары габрэй, які пражыў сто ці болей гадоў, адчуў, што ўсё ж прышла яму пара памерці. Ляжыць ён, чакае смерці, і тут да яго прыходзіць сябра, таксама старажыл:

— Арон, ці ты сапраўды адчуваеш, што скора памрэш?

— Так, сапраўды, — ледзьве прашаптаў той.

— Слухай, ты, значыцца, хутка спаткаешся з Богам. Дык на ўсялякі выпадак — ты мяне не бачыў і ты мяне не ведаеш, добра?

**Запісаў Ігар КЛОКАЎ**

# СУБОТУ...



*Гучыць азербайджанская песня.*

"Кветка". І ўспомнiўся "Гюлістан" Саадзі, і вяршыня ўсходняй паэзіі, геніяльны Нізамі Ганджэві, і Імадэдзін Насімі. І можа, мелодыі, якія гучалі на свяце, таксама прыйшлі да нас з часоў зараджэння першых песень і паданняў на тэрыторыі Азербайджана, якім пад тры тысячы гадоў?

Больш за трынаццаць стагоддзяў мінула ад хіджры і надышоў 1997 год. Складаны і супярэчлівы, ён, аднак, дае магчымасць свабодна святкаваць разам з нашымі грамадзянамі-азербайджанцамі святы, забароненыя некалі як рэлігійныя, і ўспамінаць з гэтае нагоды, што азербайджанская пісьменнасць — самая старажытная на тэрыторыі былога СССР. І што пра карані зараастрызму і ў славянскіх народаў усё часцей гавораць вучоныя. І пра многае іншае, што дае нам магчымасць лепей разумець адзін аднаго.

**Ягор ФЯДЗЮШЫН**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# "...НІКОЛІ ТАК НЕ СПЯВАЕЦЦА!"

## Тройчы сёлета мы ўжо гукалі вясну. Гукнем жа яшчэ раз...





Поры года ўяўляліся нашымі продкамі як жывыя багі і багіні, што па чарзе прыходзяць на зямлю і ўладараць над ёю пэўны тэрмін. Жыву — багіню вясны, уяўлялі дзяўчынай прыгожай і добрай, бо прыходам сваім яна жывіла памерлую зімой прыроду, давала ёй плоднасць, з яе пачыналіся клопаты аб будучым ураджаі, ад яе залежаў дабрабыт чалавека.



У веснавы цыкл на Беларусі ўваходзілі абрады: Гуканне вясны, валачобны, велікодны, юр'еўскі, куставы, семіцкі, Ваджэнне стралы, Ваджэнне куста, гранны (русальны) тыдзень.

Свята Гукання вясны пачыналася з 1 сакавіка. У кожнай мясцовасці вясну "гукалі" ў розны час, а з прыходам хрысціянства далі назвы: 1 сакавіка (на Еўдакію), 9 сакавіка (на Сорак пакутнікаў) і 25 сакавіка (на Звеставанне). Працягвалася яно аж да першага ліста. Пасля Вялікадня ўжо не гукалі.

Успамінаю, як летась 31 сакавіка, калі снегу намяло па самыя стрэхі, сабраліся разам на тэрыторыі Беларускага Дзяржаўнага музея "Менка" моладзь СШ № 11, навучэнцы Беларускага гуманітарна-адукацыйнага культурнага цэнтра, студэнцтва педуніверсітэта, БДУ, Мастацкай акадэміі, мастацкага вучылішча пры ёй, школы імя Ахрэмчыка, юныя рыцары Палаца моладзі і супрацоўнікі музея, каб гукнуць вясну-красну. Бо на гэтай ціхмянай зямлі сярод хат, што стаяць па пагорках, блукаюць чыстыя галасы продкаў.



Мы прыйшлі, каб уславіць песняй добрых людзей, адамкнуць, адагрэць сваю знямелую зямельку-матку. Як ачышчальныя слёзы ў гэтую снежную непагадзь паліліся ў касмічную прастору гукі песні ў выкананні Івана Агеева:

*"Ляцелі гусі па Белай Русі*
*Соўнейко!*
*Яны летучы шчэй гаварылі*
*Соўнейко!*
*Нідзе не лепей, як у Крывічой*
*Соўнейко!"*



Звычайна гукаюць вясну дзяўчаты і жанчыны, бо яны праз сваю прыгажосць нясуць вобраз вясны. Так было і ў гэты раз. Дзяўчаты разам з фальклорным гуртом "Дзянніца" зацягнулі ўзнёсла:

*"Вясна, хадзі ў двору,*
*Нясі ключ за сабою,*
*Зіму замыкаці,*
*Вясну адмыкаці!"*

На пагорку запалілася вогнішча, якое ахапіла палымянымі языкамі пудзіла зімы Марэну-ляльку, як сімвал ахвярапрынашэння Ярылу-сонцу. Карагод па руху сонца распачаў свой рытуальны танок. Песні і карагоды змяняліся гульнямі, наваколле напаўнялася жыццём і смехам. Звонкія, чыстыя галасы дзявок неслі загуканне ў свет белы:

*"Зіма з лецечкам сустрэла...*
*У! Сустрэлася,*
*Зіма ў лецечкі пытала...*
*У! Пыталася:*
*Ці было лета, ці не быва...*
*У! Не бывала?*
*Маці на вулку не пуска...*
*У! Не пускала".*

Падлеткі праз дахі хат кідалі птушачак, выробленых з жытняга цеста, каб хутчэй прыляцелі жаўрукі ў родны край.

На арэлях гойдаліся малыя дзеткі й закаханыя парачкі, каб абудзіць плодныя сілы зямлі пасля зімняга сну.

Нехта ўжо смажыў сала на пруточках, кроплі тлушчу якога падалі на лусцень хлеба, старэйшыя тым часам пачалі рыхтаваць застолле. З'явіліся пірагі з гарачай гарбатай, бліны з яблыкамі, як выява сонейка, яйкі — сімвал пачатку жыцця, сала розных гатункаў — абавязковая страва на абрадзе гукання вясны. Застолле ў перамежку з пазаабрадавымі песнямі адагрэла ўсіх.

Як бы ад замоў-песень на небасхіл выкаціўся белы сонечны круг, заліў сваім святлом і цяплом усё наваколле.

Твары загукальнікаў абветрыліся, запаліліся. больш яўна вызначыліся вяснушкі. Стомленыя, ап'янелыя ад чыстага паветра, але шчаслівыя, вярталіся ўсе ў Мінск.

1, 9, 23 сакавіка ўжо адбылося Гуканне вясны і сёлета. А яшчэ гукнем вясну і 5 красавіка. Вясна, хадзі да нас!

**Валянціна ЯКІМОВІЧ, старшы навуковы супрацоўнік Беларускага Дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту.**

**Фота Уладзіміра ШЛАПАКА**

# КВАРТЭТ ФЕМІНІСТАК



*Фотаработа Зоі Мігуновай*



*Фотаработа Святланы Зябкінай*

Публічная дэманстрацыя уласных твораў, выстава, па сённяшнім часе, для іх аўтара — гэта як сольная партыя ў вялікім і прэстыжным аркестры, якая гучыць упершыню. І зусім не важна, што некалькі розных аўтараў аб'ядналіся ў адзіны праект з гучнай назвай "Задача з двума невядомымі". Яны "іграюць у розных танальнасцях". У кожнага свая партытура, але заўважце, выконваюць адно цэлае, складанае, цікавае.

Такое ўражанне на гледача робіць фотавыстава чатырох жанчын-фотамастачак, якая адкрылася ў галерэі Візуальных Мастацтваў "NOVA" (бібліятэка імя Я.Купалы).

Жанчыны з камерай — рэдкая з'ява. Існуе меркаванне, што яны эпатуюць публіку, гледача і аб'ект здымак. Шмат спрэчак аб іх творчым суіснаванні з фатографамі-мужчынамі, але здымаючых асоб жаночага полу на самой справе не шмат. Напрыклад: "свецкія" тусоўкі належаць Ірэне Гудзіеўскай, мастацкія і артыстычныя — Галіне Маскалёвай і Алене Адамчык, рэпартажы — стыхія Тамары Хаміцэвіч і Марыі Жылінскай.

Аўтарак гэтай цікавай фотавыставы можна з упэўненасцю назваць незалежнымі творцамі, бо яны не падуладныя модным і кан'юнктурным тэмам, сюжэтам і плыням. Не займаюцца яны і камерцыйнай дзейнасцю і не "зарабляюць" аўтарытэт у мастацтве. У кожнай з іх адметны почырк, свой тэматычны дыяпазон. Іх творы — своеасаблівы мастацкі свет чорна-белага кіно, крохкая раўнавага зменлівых вобразаў і адчуванняў.

Нашыя сучасніцы, якія прыйшлі да такога элітарнага самавызначэння, як фатаграфія, нясуць у сабе больш выразны, яркі індывідуалізм, чым мужчыны. Такое адчуванне не пакідала мяне ўвесь час — з пачатку адкрыцця выставы, падчас прагляду твораў. Іх фатаграфіі не толькі тыповы від мастацтва для адлюстравання сітуацыі і фіксацыі імгнення, але і шматгранны эмацыйны "грааль". Гэта жыццё ў некалькіх вымярэннях! Як нікому іншаму, жанчыне ўласцівыя імправізацыя і эксперымент.



*Фотаработа Алены Герасімчык*

Знакамітая Джулія Маргарэт Камерон (1815 — 1879 гг.), першая жанчына, якая была прызнана ў грамадстве як фатографпартрэтыст рамантычнага накірунку, у адным з інтэрв'ю прамовіла фразу, што ў наш час не страціла актуальнасці: "Надзвычайнае непадабенства маіх твораў да працы майстроў-мужчын, якія заўсёды ведаюць, ЯК ТРЭБА здымаць, — вось што вызначае мой поспех."

Спадзяюся, што гэтая выстава з'явіцца "адчынкай", якая адкрые дзверы забыцця жаночай фатаграфіі, бо мужчыны тут — адсутнічаюць. Яны ўсё больш лічацца збіральнікамі ведаў і ўсё меней — генератарамі ідэй. Іх тэхнічныя веды, рамяство, на жаль, не ў лепшы бок уплываюць на змест твораў. Замест атмасферы творчага пошуку, у якой нараджаюцца новыя каштоўнасці і канцэпцыі, прысутнічае толькі холад прафесійнай працы — штучна падрыхтаваныя сюжэты прыводзяць да залішняй стылізацыі. На жаль, цікавыя фотамастакі пайшлі ў бізнес-фота. Модныя часопісы і рэклама часта спусташаюць мастака як творцу, бо патрабуюць новых і новых прыгожых "карцінак".

Таму мне здаецца, што менавіта за жаночай фатаграфіяй — творчая будучыня, бо жаночае фота — гэта новая прастора магчымасцяў для разваг. Жанчына і фатаграфія — з'ява не даследаваная, а таму яна інтрыгуе абывацеля і гучыць, нібыта выклік мужчынскай творчасці. Адметна, што жаночая фотавыстава адбываецца ў Мінску ўпершыню.

Такім чынам, прыходзьце і глядзіце, бо глядзець — гэта само па сабе ўжо мастацтва.

**Жанна МАЁРАВА**

**P.S.** Дадам, што выстава працягне сваю работу да 11 красавіка. Таму ў вас яшчэ ёсць час палюбавацца творамі незвычайнага квартэта фотамастачак.

**Ж.М.**



*Фотаработа Алены Мулюкінай*

ЛІШНЕ КАЗАЦЬ!

## МАЕ КРАКАДЗІЛЬЧЫКІ...

Неяк замест напісання чарговага матэрыялу я зачыніўся ў сваім рэдакцыйным кабінеце і заняўся любімай справай — маляваннем. Вось тут, як кажуць у народзе, мяне і накрылі! Рэдактура яхідна пасміхнулася і загадала змясціць маё выяўленчае мастацтва ў першакрасавіцкі нумар газеты. Каб не займаўся падобным у будучыні.

**Зміцер ВІШНЁЎ,**
**спецкар газеты "Культура"**



## ВЯЛІКІЯ ЖАРТУЮЦЬ

Неяк у Нью-Ёрку Стравінскі ўзяў таксі і са здзіўленнем прачытаў на таблічцы сваё прозвішча.

— Можа,вы родзіч кампазітара? — спытаўся ён у таксіста.

— А што,ёсць кампазітар з такім прозвішчам? — здзівіўся шафёр. — Упершыню чую. Стравінскі — гэта ўладальнік таксі. Я ж нічога агульнага з музыкай не маю. Маё прозвішча — Пучыні.

Аднойчы пасля канцэрта да Паганіні звярнулася прыхільніца:

— Маэстра, парайце, што я павінна зрабіць, каб ваша чароўная музыка заўсёды была са мной?

— Пераўтварыцеся ў скрыпку Страдывары.

Неяк Рубінштэйна спыталі, ці здзіўляла яго калі-небудзь прэса. Ён адказаў:

— Так, у адной каліфарнійскай газеце было такое паведамленне: "Фартэпіяна было цудоўнае і Рубінштэйн нядрэнна на ім іграў".

Аднаго разу спевака Дзмітрыя Аляксеевіча Смірнова запрасілі на канцэрт у купецкі дом. Было гэта летам: вокны адчыненыя... Гаспадыня папрасіла праспяваць які-небудзь раманс.

— Я праспяваў бы, ды ўжо позна. Баюся, вашыя суседзі будуць незадаволеныя.

— Так ім і трэба, — адказала гаспадыня, — мінулай ноччу іх сабака таксама выў у нас пад вакном.

— Гэтая саната навеяна ўспамінамі пра каханне, — тлумачыў піяніст Падарэўскі на ўроку свайму вучню. — Яе трэба іграць як песню кахання, зварот да нявесты.

Малады чалавек садзіцца за фартэпіяна і грае санату. Праз некаторы час Падарэўскі ўскліквае:

— Паслухайце, вы іграеце так, быццам звяртаецеся да цешчы...

Аднойчы, седзячы ў тэатры, Расіні шапнуў свайму суседу:

— Спявак неверагодна дрэнны. Першы раз у жыцці чую такія жахлівыя спевы...

— Магчыма, будзе лепш, калі мы пойдзем дадому, — прапанаваў сусед.

— Не, — адгукнуўся Расіні. — Я ведаю, што ў трэцім акце гераіня павінна яго забіць. Я хачу гэтага дачакацца.

Неяк сябар Расіні расказаў яму, што яго знаёмы сабраў калекцыю прыладаў катаванняў усіх часоў і народаў.

— А ці не было ў гэтай калекцыі фартэпіяна? — пацікавіўся Расіні.

— Не, не было.

— Гэта азначае, што ваш знаёмы ў дзяцінстве не вучыўся музыцы.

***З надыходзячым 1 красавіка!***

**Падрыхтавала**
**Алена РЫГОРАВА**



КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Першы намеснік галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдакцыйная калегія:
Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Ігар КЛОКАЎ, Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 27.03.97. у 15.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3514
Замова 1729.
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.